# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ






№ 5
1925

Орган ЦК ЛКСМБ і Наркомасьветы БССР.

# ЗЬМЕСТ.

Зьмена зьмену рыхтуе сабе:
Піонэр—комсамол—К. П. Б.

Да змаганьня за справу
працоўных, будзь гатоў!


# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
— ОРГАН —
ЦК ЛКСМБ І НАРКОМАСЬВЕТЫ БССР

— АДРАС РЭДАКЦЫІ: —
Менск, Пляц Волі Наркомасьветы БССР,
тэлефон № 443.

№ 5. КРАСАВІК 1925 г.


## Піонэры! надыходзіць лета.

Кожны з нас ведае, што толькі ў гэтым годзе мы прыступаем да сталай працы на вёсцы ў летні пэрыод. Наша піонэрская організацыя толькі за апошні год змагла значна прасунуцца ў вёску і заваяваць у ёй сваё сталае месца. Вёска ўжо расквітнела чырвонымі гальштукамі. Вёску абудзілі новыя маладыя юнацкія песьні. Усе дзеці вёскі адчулі ў нашай піонэрскай організацыі сваю родную і блізкую ім па духу організацыю. Усё гэта паказвае нам, што наша праца ня гіне дарэмна. Але поруч з гэтым яшчэ больш сур'ёзныя задачы ўсплываюць перад нашай організацыяй у сувязі з ростам піонэрыі на вёсцы. Да гэтых задач мы падышлі і сталі поруч з імі.

Кожны наш сягоняшні крок у працы— ёсьць новы крок, бывае й памылковы, бо мы ня маем яшчэ сталага вопыту ў працы вясковага атраду, асабліва ў летні пэрыод. Мы гэты вопыт толькі сягоньня набываем.

З гэтага выплывае тое, што ня толькі адны павадыры павінны сур'ёзна аддавацца справе кіраўніцтва атрадамі ў іх працы ўлетку, выходзячы з агульных палажэньняў, але й самі піонэры павінны прыняць у гэтым самы шчыры ўдзел.

Піонэрскі атрад сваім колектывам зможа глыбей прадбачыць свае асноўныя задачы, выходзячы з мясцовых умоў. Мы маем толькі агульныя задачы ўсёй нашай організацыі, якія рассылаюцца кожнаму атраду. Але гэтага мала. Кожны атрад можа стаць яшчэ і перад другімі задачамі, якіх не прадбачаць агульныя пляны працы. Трэба старацца праводзіць працу так, каб яна выходзіла з запатрабаваньняў, як нашых агульных задач, так і з мясцовых умоў.

Правільная пастаноўка працы ў атрадзе гэта самае важнае, што павінен помніць кожны атрад. Ніякіх спрэчак, ніякіх непаразуменьняў унутры атраду не павінна быць. Можа часамі і будуць здарацца памылкі, але на іх трэба вучыцца, іх трэба харашэнька абдумаць усім атрадам і толькі тады старацца справіць.

Нашы асноўныя позыцыі ў вёсцы і тыя атрады, якія ўжо аформіліся, мы павінны замацаваць і поруч з гэтым ісьці паступова наперад у росьце.

У атрадзе трэба старацца паставіць працу так, каб яна была жывою, цікавую для ўсіх дзяцей вёскі.

Грамадзянскую працу трэба старацца пашыраць з кожным днём. Што толькі можна дапамагчы ў жыцьці вёскі атрадам, трэба ня ўпускаць, трэба быць тут заўсёды гатовым. Заваяваць аўторытэт атраду з боку сялянства, абавязкова кожнаму атраду. Інакш нам пагражае зьніжэньнем росту атраду. Чаго ніяк нельга дапусьціць.

За час летняга пэрыоду мы павінны значна вырасьці, стала аформіць сваю працу. Трэба ўсім уважна аднесьціся да тых задач, якія паўсталі перад нашай організацыяй цяпер, добра іх абмяркаваць і шчыра за працу.

Піонэр упарты ў працы і можа працаваць пры ўсялякіх умовах. Дык хай-жа ня пужаюць нас перашкоды! Сьмела юнацкім колектывам дружна наперад! Ні кроку ад нашай агульнай справы; усьлед за комсамолам па шляху Леніна!

А. Я.

# Першы ўрок.

*(Малюнак з натуры).*

Мінуўшы могілкі Хведарка,—хлопчык гадоў шасьцёх,—сьцішыў ходу. Ён пачаў узірацца паабапал дарогі, пазнаваць расьліны.

— Вось канюшына, валошка, бульба,— думаў ён. Чаму цяпер мама ня ходзіць у бульбу? Наварылі-б крышаноў, або наскрэблі-б—ды з салам, а то ўсё крупнік ды лебяда. Чакай, пагляджу ці вялікая бульба. Скажу маме, увечары прыдзем.

Хведарка ўзышоў на сярэдзіну загона, прыгнуўся, расхіліў цяўнік і тузянуў за адно каліва—сарвалася, ён другое—каліва выцягнулася, а з ім некалькі невялічкіх бульбінак. У яго зьявілася жаданьне нарваць поўную кішэню, прынесьці дамоў і наварыць. Хведарка прысеў і пачаў адграбаць каліва, як яму летась паказвала маці. Адгроб адно



Што-ж ты робіш?!.

каліва, другое... Яму пачала здавацца бульба гэткаю смачнаю, што ня вытрываць.

— Поўную кішэню навыграбаю, вось будзе мама рада, пахваліць, пад'ядзім...

— Апанас, ці бачыш, гэта-ж у тваёй бульбе сьвіньня рыецца,—кажа Зьмітрок, які недалёка ад Апанаса касіў канюшыну.

Апанас прыпыніўся і прыглядзеўся ў бок свае бульбы, якая была ад іх праз адзін палетак—гоней за тры

— Але, праўда! Каб ты здохла!.. Трэба думаць, куды забралася; ці ня было-ж ёй дзе-небудзь іншага загону?! Такі-ж-то.—Дзе сяло, а дзе мая бульба! Можа ўжо і даўно яна тут, а я й ня бачу?

— А ўжо ці цеперся; мне перш здавалася што гэта нібы дзяўчынка якая, я думаў твая Зося ў зельле прышла.

Апанас схаваў пад пракос касу, узяў у рукі палку і пашоў цяраз поле.

Хведарка гэтак унік у сваю працу і гэтак захапіўся сваёй справаю, што ня чуў, як да яго падышоў Апанас.

Што ты гэта робіш?—крыкнуў Апанас, падышоўшы пад самага Хведарку. А ліха-ж тваёй галаве! гэта-ж ты паўзагона бульбы зглуміў мне, чы ты звар'яцеў?!

Хведарка спужаўся гэтага крыку і гэтае лаянкі. У момант ён усхапіўся ня ведаючы, чаму той на яго крычыць і што далей з гэтага будзе.

Апанас-жа раптам раззлаваўся, схапіў яго за каўнер сьвітачкі, перагнуў на калена, задраў сьвітку і пачаў лупцаваць палкаю.

— Га! га! зладзянё ты... будзеш... будзеш... ня можна ў чужую бульбу хадзіць!

Затым у Апанаса трохі адлягло, ён

пусьціў хлопчыка і пачаў на чым сьвет лаяць яго.

Хведарка ня супярэчыў, моўчкі паволі варочаўся ён на бакі.

Садраўшы сьвітку, Апанас кінуў хлопчыка і пачаў лічыць каліўя.

Хведарка схамянуўся. Нейкі жуд агарнуў яго, страшны, дзікі, халодны. Што гэта? Адкуль гэта? Як гэта здарылася? Нейкі незнаёмы дзед, які раптам наскочыў на яго нібы каршун, крык, лаянкі, а за тым... за тым яго нешта раптам уздрыгнула, ён быццам паляцеў у паветра, заплюшчыў вочы і забыўся... далей, нічога... за тым ён зноў долі, зноў лаянка .. блізка-блізка каля яго твару некі страшны незнаёмы твар... і раптам на ём сьвіткі няма.

— Дзядзечка, аддай! родненькі, даражэнькі, аддай сьвітку, вазьмі сабе бульбу!

— Трэба думаць, трасца тваёй галаве, зглуміць дванаццаць каліў, гэта-ж ні жарты— паўзагона!

— Дзядзечка аддай!

Хведарка ўзяў сваю торбу, якая ляжала ў градках, і пашоў дамоў.

— Зашто ён лае мяне?!... сьвітку садраў... хіба я чапаў яго... хоць-бы мама і тата ня ведалі, будуць крычаць, біць...

За вошта на яго будуць бацькі крычаць, за вошта яны павінны біць яго—ён ня ведаў, нават і ня думаў гэтага. Ён ведаў, прывык, што, калі чужыя пакрычаць на яго ці наб'юць,—свае не заступяцца, не пашкадуюць, а яшчэ лепш паправяць.

Пануры, ня сьмела узышоў Хведарка на свой двор. На двары каля калодзежа спаткала яго маці, яна нічога не заўважыла. Хведарка ўвашоў у хату, палажыў на лаве ў мыцяльніку торбу і вышаў пад хлеў.

Неўзабаве пачуў ён у канцы сяла нечы крык. Ён бачыў, што маці яго прыглядалася на вуліцу, і за тым ён пачуў:

— Гэта-ж майго Хведара сьвітка! На што-ж яму здалася тая бульба?

Хведарка зашоў за хлеў і далей нічога ня чуў. Зрабілася яму цяжка, брыдка, здавалася, што ўжо ўсе ведаюць, усе сьмяюцца з яго. Наўкола ўсё неяк перайначылася: хлеў, склеп, прагуменьне—усё не вясёлае, ня прыхільнае, нават сонца нібы пахмурнела. Хведарка міма волі пацягнуўся да сьцірты бярвеньня, якое ляжало за хлявом, падышоў да яе, за тым раптам падлез пад яго, падшыўся далёка на сярэдзіну.

Маці шукала Хведарку, гукала, але ён маўчаў не азіраючыся.

Быў надвячорак, калі Хведарка выбраўся адтуль. Не сьпяшаючыся прашоў ён праз двор, падышоў да сенцаў, адчыніў дзьверы.

— Хадзі, хадзі зладзюга,—сустрэла яго ў хаце маці. Хведарка прыпыніўся каля парога,

— Дзе ты хаваўся дагэтуль? На што табе была тая бульба? Каб ты ўжо свае наглуміў, то толькі тае бяды, а то ў чужую забраўся. Што ты думаеш сабе? Ці-ж гэта, каб на нас пальцамі тыкалі праз цябе! Ты-ж ужо ня блазен!

Матка схапіла трапкач і разоў з пяць аперазала хлопчыка па плечах.

Хведарка заплакаў. З таго часу, як Апанас схапіў яго за каўнер і пачаў біць, аж да гэтуль, хлопчык быў нібы ні свой.

— А мо' гэта сапраўды ві я быў, мо' хто другі?.. Чаго яны прычапіліся да мяне? Ты!—ты!!—ты!! Хіба гэта я!?

— Чаго распусьціў сьліну? Прыдзе вось тата,—пабачым, што ён табе запяе...

Хведарка забраўся на печ і прытаіўся ў куточку. Плакаць ён перастаў, але нэрвы яго разышліся. Гэтак утаміўся Хведарка, гэтак зьнямогся што ня бачыў, як сьцямнела, ня чуў, як сабраліся ўсе ў хату, вячэралі,— заснуў.

Яму сьніцца нібы ён памёр. Яго палажылі ў труну і нясуць на могілкі. Каля труны йдзе маці, сястра-Ганулька і плачуць. Шмат людзей ідзе—і тыя плачуць. З-заду тата вязе папа. Поп маўклівы, насупіўся, тоўсты—той самы дзед, што спужаў яго, праз якога ён і памёр, а тата сядзіць у перадку маленькі, худы, няшчасны. Страшна яму могілак і шкода мамку, Ганульку, татку. Хведарка пнецца, каб устаць і сказаць ім што-небудзь, пашкалаваць іх.

— Нешта наш Хведарка мармыча праз сон, ці не захварэў ён?—пытае бацька.

— Захварэў! Гэта-ж як ішоў ад цябе, занёсшы табе сьнедаць, дык у Апанаса Дароцінага ў бульбу залез. Той, мусіць, накрычаў на яго, сьвітку садраў, мо' нават выцяў; я трохі крычала і сьцябнула трапкачом, напужаўся,—вось цяпер і мармыча.

— Якую хаця бульбу? На што яна яму здалася?

— Хвароба яго ведае, на што яна яму; запытай заўтра, раздурэў; шукае галава гуза; трэба, каб ты яго ўшчунуў трохі.

— Ці-ж яму не хватае сваёй!?

— Не хватае! Брыдота! Увашоў Апанас у сяло, падняў сьвітку, трасе і крычыць: „кабеты, прызнавайцеся, чыйго дзіцяняці сьвітка“. Глянула, гэта-ж, кажу, нашага Хведаркі. Крычыць,—паўзагона бульбы выграб.

— Паўзагона! Ужо й паўзагона! Калі-ж тое было?

— А ты не бярыся гэтак. Што з яго будзе, калі з гэтакіх гадоў пачне ўсюды лазіць?



Я-ж табе не дарую!

— Калі-ж бо разявіў горла—паўзагона! Мо якое адно ці другое каліва скубянуў. Чаму сам, коўзаецца па чужым.

— Але-ж нельга дараваць гэтага,—упіралася маці.

— Дык што-ж з ім зробім, з падлаю! Хвароба яго ведае, чаго яго нагнала як раз на гэтага Апанаса. Чаго ён там быў?

На заўтра была нядзеля. Ганулька вымела сенцы і стала прыбіраць ложкі. Тата сядзеў у сенцах каля стала і падстрыгаў бараду.

Хведарка прачнуўся і зьлез з печы. У яго трохі балела галава і смактала пад ложачкаю. У хаце нікога ня было. Ён пакіраваўся ў сенцы.

— Хадзі, хадзі сюды,—угледзеў яго тата. Што ты гэта нарабіў учора? На што табе здалася Апанасава бульба? Разскажы, як там было!

Хведарка моўчкі супыніўся пасярод сянец.

— Чаго маўчыш? Думаеш гэтак і абыдзецца!? Я табе ня дарую гэтага!

Бацька ўзьняўся з-за стала, расьперазаў папругу і кінуўся да сына, схапіў яго, выцег заслон, разлажыў і пачаў лупцаваць...

Прашоў тыдзень. Пра Хведаркаву бяду ўсе забыліся. Ён дома ўжо нікога не сароме́ўся. Пісагі з яго зышлі. Але ён нібы пастарэў. „Чужое, уласнае, не чапай чужога“—гэтыя словы ўсюды ходзяць за ім, яны дадзелі яму, учамярэлі. З гэтага часу ён уразумеў, што ёсьць чужое і ёсьць сваё; сваё можна браць, чапаць, а чужое не—будуць біць.

— Чужое, уласнае! Колькі сьлёз, колькі жалю бярэ ад нас гэта чужое! Лепш, каб ня было гэтага чужога—думаў увесь час Хведарка.

**Касач.**

## Будзь здарова!—кажу школе.

Будзь здарова!—кажу школе,
Сам—на луг, у лес, у поле.
Там я з пугай-дратаванкай—
Аж да вечара ад ранку,
Покуль мой атрад рагаты
Не захоча зноў да хаты...
Мае выпусткі цялушкі,
Як дзяўчаткі-весялушкі,
Бычаняты-хлапчаняты,
Я іх пешчу, нібы тата.
І хаджу бадзёры з-заду—
Павадыр свайго атраду.

Выйду з імі на паляну—
Люба, гожа, дзе ня гляну...
Жнуць кароўкі, нібы жнейкі,
І прыемны шорах нейкі
Ў душу крадзецца лісіцай.
Сонца мыецца расіцай,
Залатыя мочыць косы.
Па расе скачу я босы.
І пад сьпевы птушак мілых
Грае, грае кроў у жылах.
Усё, вясна, з табою скача—
Піонэрка ты, ня начай!

**Крапіва.**

# Грышка.

(Апавяданьне).

Грышка туляўся... Разоў некалькі, як адлучалася куды на двор яго матка, Грышка памыкаўся ўцячы.

Ня любіў ён вадзіцца з маленькай Марылькаю. Куды там. Там за гэтым нізкім ваконцам: птушкі шчабечуць... Матылі па сонцы пырхаюць... Вядома лета. Эх, лета!.. Каму яно так прынадна не ўсьміхаецца, як ні дзевяцёх гадоваму Грышку.

Зіма ўжо другое... Яна, гэта зьлюка, старая бабуля, на печ загоніць. Зласьнейшая, як маці яго нават. Ну, што ёй трэба ад яго? Пакіне яго Грышку аднаго дома з жабкай гэтаю, як называў яе сам Грышка, Марылькай і сама пойдзе некуды. Доўга ня прыходзіць. Тады Грышку робіцца страшна аднаму. Здаецца яму, што матка кінула яго, а больш усяго—ня вернецца. Тады ён бывае ўкрые коўдрай галаву і пачынае плакаць. Плача горька, доўга па дзяціннаму. Выплакаўшыся ён думае:

— Чаго плакаць. Ня прыдзе мама да хаты, дык тады паем ўсё, а сам пайду куды небудзь. І раптам ён робіцца весялейшым. Пачне плакаць Марылька: ён забаўляе яе, бярэ на рукі, сьпявае. А калі ня сьціхае, дык сварыцца з ёю. А другі раз і па добраму гаворыць. Усяго бывае. Бывае паесьць ўсё тое, што матка Марыльцы аставіла. Альбо кіне калі яе, а сам уцячэ куды. Тады, як прыдзе ён, матка лупцуе яго моцна, моцна, што Грышка рукі й ногі цалуе матцы кажучы:

— Мамка, больш ніколі не пайду.!·

Але ці усядзіш? Ці-ж ня клічуць гэтыя верабейчыкі сваім вясёлым чырыканьнем? Ці-ж ня кліча гэты залаты праменьчык сонца, які пралез праз шыбку і ўсьміхаецца кажучы Грышку:

— Ты-ж нявольнік. Ты прыкуты да гэтай хаты; будзеш тут век сядзець, як птушка ў клетцы і нікуды ня пойдзеш.

Грышку сумна. Ён насупіўшыся ўзіраецца на праменьчык сонца, які лапінкай асьвятляе падлогу. Па ім лётаюць нейкія невядомыя жывёлінкі.

Лопнуў рукой Грышка; хацеў з іх злавіць доўгую пылінку. Але не ўдалося. Усе яны замітусіліся, занепакоіліся, заскакалі ў нейкі карагод. Як быццам хацелі разам бараніцца ад нападу ворага. Грышка пры гэтым азірнуўся вакол. Нікога няма. Толькі Марылька, жабачка, зьлёгку храпе салодкім сном.

Грышка прыадчыніў вакенца, паглядзеў яшчэ раз назад і, скакануў...

Матыля не здагнаў, уцёк... А які ён быў хорошы? Дзіва... Белы... Вусы доўгія, такія вялікія. А крылья!

А як хараша ўсё вакол!

Грышка, ад радасьці, аж уверх падскакавае, лётаючы.

II

Пастухі ў бярэзьніку гулялі ў зайцы. Галасы іх зычэлі звонка і водгульлем адгукваліся ў лесе.

— Гэй, Паўлюк!.. Паўлюк!.. Рагуля твая ў канюшне—крычалі пастухі.

Выбеглі ўсе на край лесу.

— Бяжы, скарэй бяжы, а так пападзе ад Прохара, як і ўчора—крычалі ўсе.

— „Байструк,“ схадзі ты адгані!—прагаварыў Паўлюк.

— Бяжы, сам бяжы!

— Байструк! чуеш, што табе гавораць!

— Які табе я байструк! я, Грышка! што ў мяне бацькі ня было!?

— А я табе кажу іці!

— Я не байструк! хай табе байструк адгоніць.

— Пойдзеш ці не?

— Не!—рашуча сказаў Грышка.

— Дык вось табе—пляхнуў Паўлюк аплявуху і сам паляцеў крычучы:

— Куды, Рагу-л-ля, каб цябе ваўкі!

Грышку моцная боль зразу кальнула у галаву. Аж у вочах пацямнела. Ён заліўся сьлязьмі і пашоў. Ціха йшоў Грышка па мяжы, між жоўтых насьпеўшых каласоў жыта і моцна задумаўся:—чаму я такі няшчасны, адзін у сьвеце—думаў Грышка. Ніхто мяне не шкадуе. Матка б'е. Усе б'юць. І цяпер, як прыду да хаты, таксама будзе біць...

Пад наплывам вялікіх крыўдных думак, Грышка ня прыкмеціў, як вышаў на дарогу. Тут толькі спужаўшыся ён зірнуў уверх. Перад ім коўдраю зялёнаю сенажаць разаслал ся. На ёй маталіся ў белых кашулях касцы. Некаторыя з іх косы мянцілі з вясёлым браз-

ганьнем, каб потым з большаю сілаю заесьціся ў зялёную траву. А косы то сям, то там мільгалі водблескам блізка заходзячага сонца.

Грышка крыху павесялеў.

Але на твары ўсёроўна асталося лёгкае, ружовае абурэньне.

— Куды іці?—падумаў Грышка.

— Да хаты?! не, страшна.

— Пайду,—падумаў ён сабе,—да гэнага лесу, і як скоціцца гэты клубочак сонейка вазьму і прынясу да хаты. Вось мама будзе рада. Біць мяне ня будзе. Павешу на сваёй бэльцы і будзе сьветла-сьветла ў нашай хаце. Сьвятлей будзе, як у другіх. Дарма, што ў іх лямпы гарагь, а ў нас лучына. І Грышка пашоў.

III

Шпаркімі крокамі ступаў Грышка.. Падышоўшы да хвойніку, зьвярнуў управа і пашоў сенажацьцю.

А вось кладка... Грышка зірнуў уверх. На другім баку рэчкі у чырвоненькіх кашулёнках, як сонца над лесам, гулялі дзеці...

Грышка астанавіўся, яны згледзілі Грышку.

Грышка насупіўся; яму хочацца ўцячы, ён чуе, што твар яго робіцца гарачым...

— З якой ты вёскі?—запытала першая, як і ён вялічыні, дзяўчынка.

— А вунь з гэнай—нясьмела пальцам паказаў Грышка.

— А чаго здалёку сюды ты прышоў?—Запытала разам некалькі.

Хутка Грышка быў абцяты колам невядомых яму дзяўчатак і хлопчыкаў. Яны жыва распытвалі ў Грышкі аб усім.

— А бацька ў цябе ёсьць?—нечакана запытала сінявокая дзяўчынка.

— Няма... ціха адказаў Грышка. Ён успомніў: за тое, што няма ў яго бацькі, яго абзываюць „байструком“. Яму стало крыўдна. Яму цяпер хацелася заплакаць моцна, моцна і выказаць крыўду. Але нечага баяўся ён.



24 атрад юных піонэраў імя т. Адамовіча. г. Магілёў.

— А дзе ён, твой бацька?—запытала некалькі галаскоў.

— Палякі забілі... праз сьлёзы чуць прагаварыў Грышка.

— Ціха, ня плач,—з павагай ўсе суцяшалі Грышку.

— Не адзін ты ў сьвеце няшчасны. Мы-ж усе таксама без бацькоў.

Ён падышоў хутка пад рэчку і пашоў берагам...

Моцныя хвалі рэчкі з плюскатам беглі адна за аднэю. Набягалі адна на адну, разьбіваліся лёгка, рабілі кружочкі, круціліся, і ізноў беглі ў сваю вялікую дарогу...

Грышка таксама не адставаў ад іх. Ішоў сьпяшаўся. Ішоў і ўзіраўся на гэтыя шкляныя хвалькі, любаваўся імі.

Грышка хутка кінуў плакаць.

— Чаго ты плакаў?—пыталі ўсе яго. У нас-жа таксама няма бацькоў, палякі пабілі. Узімку мы ў горадзе вучымся, а цяпер сюды у колёнію прыехалі, каб тут на полі вучыцца працаваць...

Грышка пасьмялеў. Ён адчуў у гэтых незнаёмых яму дзецях, нешта блізкае яму, роднае. Ён чуў, што ўсе яны—нейкая частка яго і Грышку зрабілася шкода іх.

— Сходзім да нас... Вось тут мы жывём—прагаварылі яны.

— Ідзем!—адказаў Грышка.

— У вас піонэрскі атрад ёсьць?—запытала адна дзяўчынка.

— Дык дзе-ж той атрад. Што ты нямятаеш, як мы хадзілі нядаўна ў іх вёску і з іх ніхто не хацеў у піонэры паступіць?—перабіла другая.

— Праўда, я забылася.

І яны гаворачы пашлі.

Матка чакала. Матка прыслухалася, прытаіла дух, ці ня йдзе яе сын Грышка.

А Грышка? ён вясёлы йшоў да хаты у гэты час з новымі сваімі сябрамі.

Вось ён разьвітаўся з імі каля свайго гумнішча... і шыбка пабег па халоднай ад расіцы траве. Яна блішчэла на лісточках травы, як сьлязінкі ў вачох..

Грышка бярэ за клямку і адчыняе дзьверы.

— Мамка, толькі ня бі, паслухай,—гаворыць ён, такім ласкавым, успагадным дзяцінным голасам. Я быў у калёніі, гуляў з дзяцьмі, у якіх няма бацькоў, як і ў мяне... Я ведаю за што паны забілі майго татку... Мамка, я стаў піонэрам...

Матка затурбавалася. Яна падскочыла да Грышкі, абвіла яго рукамі і прыціснула моцна моцна да сваіх грудзей, і пачала цалаваць..,

Грышка першы раз чуў такія пяшчоты маткі.

**П. Рагачэўскі.**

---

## Чырвонагрудыя, слухай!

Ўспамінаць нам старога ня трэба,
Дзе бацькі ў паднявольлі стагналі...
І дзяцей, што жылі бяз хлеба,
„Абадранцамі“ сытыя звалі.
Няхай сьпевы зьвіняць веснаходам,
Разьліваюцца сёньня ў прасторы.
Пойдзе з намі і захад і ўсход,
Будаваць каб комуны узоры.
Дык шчыльней-жа калёны, атрады,
Новых сільных рыхтуйце арлоў.
У бой апошні, на барыкады,
Піонэрскі атрад, будзь гатоў!

**С. Серада.**

*(Студыец „Маладняка“).*

## Маёва-піонэрскае.

Эх, ты май кучарава-зялёны,
Любім мы твае першыя дні,
Калі жыцьцё наша новае
Маладняцкім задорам зьвініць.
Эх, прыгожасьць ты першага мая!
Эх, ты воля—шырокі разгон!
Сёньня й вецер нам песьні сьпявае,
Сеньня й сонца кладзе нам паклон.
Піонэрская песьня маёвая
Маладняцкім задорам зьвініць...
Эх, атрад—стальныя калёны,
Ну, і як-жа мне вас ня любіць!

**Глебка.**

*(Студыец „Маладняка“).*



# Праца вясковага атраду.

У апошнім нумары нашай часопісі мы гутарылі выключна аб працы вясковага атраду ўвесну. Цяпер, калі пэрыод гэтае працы пачаўся, мы павінны падумаць аб далейшых нашых задачах у чарговы пэрыод працы—летні.

Наша піонэр-організацыя фактычна пераживае першы летні пэрыод. Ні якага вопыту а працы вясковага атраду ў гэтым пэрыодзе мы ня маем.

Але баяцца няма чаго. Мы не павінны баяцца працы, хоць яна й вельмі трудна даецца.

### Яшчэ аб агро-культурнай працы.

Асноўная праца вясковага атраду ў гэтай галіне разглядалася ў мінулым нумары. Цяпер дабавім некаторыя моманты ў працы, якія надыдуць з летам.

Улетку ў вёску прыедуць студэнты на канікулы. Шмат студэнцтва будзе з сельска-гаспадарчых устаноў. Такое становішча мы павінны скарыстаць. Нам трэба завязаць самую цесную сувязь з гэтым студэнцтвам. Студэнцтва нам дапаможа і ў нашым агародзе і на экскурсіі і ў пропагандзе і г. д.

Апрача студэнцтва трэба старацца выкарыстоўваць прыкладных гаспадароў, якія правільна вядуць сваю гаспадарку. Гэткі гаспадар можа нам шмат чаго расказаць аб сваёй працы і навучыць нас.

Усякія экскурсіі павінны абгаварвацца ў атрадзе. Усё, аб чым даведаемся на экскурсіі, трэба старацца прывіваць дома на гаспадарцы свайго бацькі.

### Сельска-гаспадарчы куток.

Па першае павінен быць сталы вучот працы ў гэтай галіне. Дзеля гэтага патрэбна мець с.-г. куток, дзе павінна быць зьмешчана ўся праца атраду датычная сельскае гаспадаркі.

У кутку можна зьмясьціць розныя колекцыі расьлін, дзікіх траў, шкоднікаў. Да колекцый патрэбна дадаць пісьмовае тлумачэньне, што гэта за расьліны, або шкоднікі, як весьці з імі барацьбу. Тут-жа павінен вісець сьпіс кніжак па сельскай гаспадарцы, якія можна раіць для чытаньня.

Там, дзе атрад свайго клюбу ня мае, а працаваў да гэтага часу ў хаце-чытальні, справа стаіць некалькі йнакш. Такім атрадам трэба прыняць удзел у албудове сельска-гаспадарчага кутка пры хаце-чытальні.

### Матэрыялы.

Для кожнай працы неабходна мець матэрыял, які трэба пашукаць у комсамольскай ячэйцы, хаце-чытальні й газэтах.

С.-г. гурток ячэйкі вядзе свае заняткі па кніжцы „комсамолец за плугам“. Для павадыра атрадам там можна знайсьці шмат карысных матэрыялаў. Апрача гэтага ў часопісі „Плуг“ (Орган Наркамзему), у газэтах: „Беднота“, „Крестьянская газета“, „Беларуская вёска“ заўсёды даецца цэлы шэраг артыкулаў па сельскай гаспадарцы.

### Заняткі зьвеньняў.

Увесну і ўлетку вялікая частка працы павінна лажыцца на зьвёны. Асобнаму зьвяну лягчэй сабрацца, чым усяму атраду. Зьвяно на гэтых зборах павінна старацца праводзіць працу ў плянавым парадку,

### Захаваць склад атрадаў.

Ужо зараз з некаторых атрадаў пачынаюць выходзіць дзеці, бо нельга ўправіцца з працаю дома. Такое становішча і з школамі. Аб гэтым трэба падумаць, як быць.

Трэба старацца растлумачыць сялянам аб неабходнасьці сканчэньня школ іх дзяцьмі, дагаварыцца аб гэтым з настаўнікам, паставіць пытаньне на сходзе комсамольскай ячэйкі. Трэба старацца зрабіць усё, што можна, але каб школы і атрады не засталіся ў весну і ўлетку пустымі.

### Пісаць болей.

Трэба болей пісаць у акруговае бюро, у часопісь аб жыцьці і працы атраду ў даны пэрыод—аб яго дасягненьнях і недахопах. Увесь гэты матэрыял мы зможам выкарыстаць, як вопыт для пабудовы сталага пляну на далейшы час працы.

У летні пэрыод трэба таксама старацца не парваць сувязі з гарадзкімі атрадамі.

М. Лабадаеў.

# НАША ЖЫЦЬЦЁ.

## Распачалі працу.

*(г. Тураў).*

Наш піонэр-атрад стаў практычна праводзіць у жыцьцё свае пляны аб працы сярод сялянскай моладзі.

Атрад з кожным днём глыбей і шырэй разьвівае сваю дзейнасьць на вёсцы.

Шчыра працуйце, піонэры! Не палохайцеся першых няўдач! Сувязь з сялянскімі дзецьмі расьце.

Піонэр **Тодар Казлоўскі.**

## Корэсподэнцкая праца.

*(г. Барысаў 6-ы атрад).*

У нашым цэнтральным клюбе ёсьць гурток пікораў, якія пішуць у цэнтральную газэту пры клюбе.

У ва ўсіх атрадах таксама ёсьць свае газэты. Корбюро пры цэнтральным клюбе кіруе ўсёй працаю пікораў.

Нашы пікоры пачалі ўжо пісаць і ў сваю часопісь „Беларускі Піонэр“.

Пікоры: **Маза Б. і Двошкінд.**



**Атрад піонэраў вёскі Мала-Стахава Бабруйскага раёну і акругі. х) павадыр атраду—настаўнік, хх) пам. павадыра.**

## Рыхтуемся да летняй працы.

Надыходзіць лета. Мы ўжо пачалі рыхтавацца да летняе працы. Выбралі комісію па правядзеньню працы ў агародзе. Комісія жвава ўзялася за працу. Быў назначаны „васкрэснік“ і мы агарадзілі свой агарод. Улетку будзем працаваць па пляну, які выпрацуе комісія.

**Пікор. Ронін.**

**Мяне бацька пахваліў,**
**Што я ў працы лоўкі.**
**На часопісь „Піонэр“**
**Даў мне саракоўку.**

## Атрад расьце, праца шырыцца.

*(Бяседавіцкі атрад Хацімскага раёну Калінінскай акругі).*

Наш атрад з'організаваўся нядаўна, месяцаў восем таму назад.

У першыя часы свайго істнаваньня працаваць было вельмі дрэнна й трудна: ня было клюба. Працавалі мы тады ў нардоме, у якім адначасна працавала яшчэ некалькі арганізацый.

Часта нашым заняткам перашкаджалі комсамольцы: дурэлі й паказвалі дрэнны прыклад сваім меншым братом.

Цяпер мы маем клюб. Добра яго абсталявалі: збудавалі куткі зьвеньняў і куток Леніна.

Тры разы ў тыдзень займаюцца зьвеньня.

На занятках чытаем аб жыцьці Леніна, часопісь „Беларускі Піонэр".

Дыстыпліна ў піонэраў больш меньш добрая.

Атрад усё расьце і праца йдзе наперад.

Піонэр **Янка Курдычка**.

## Як мы працуем.

*(г. Дрысса Полацкай акругі).*

У нашым горадзе маецца тры атрады юных ленінцаў.

Спачатку праца вялася самая простая, бо ня было памяшканьня для працы. Цяпер-жа мы маем два пакоі для клюбу. Нам памаглі здабыць іх комсамольцы. Клюб колектыўна вельмі добра абсталявалі.

Атрадамі колектыўна выпускаюцца насьценныя газэты „Чырвоны гальштук" і „Ленінец наперад".

Піонэры прымаюць самы гарачы ўдзел у сваіх газэтах.

Політыка-выхаваўчая праца йдзе добра.

Кожны піонэр сумленна адносіцца да сваіх абавязкаў.

З боку комсамольцаў прыкмячаецца заікаўленасьць сваёю зьменаю.

Адзін у нас толькі недахоп: няма кіраўнічага матэрыялу.

Павадыр **II-га атраду**.

## Мала ўвагі.

Хутка будзе год, як існуе Асьвейскі атрад піонэраў, а працы ў атрадзе не вядзецца аніякай. Прычына тая, што комсамольская ячэйка не зьвяртае ўвагі на наш піонэрскі отрад і не дае нам добрага кіраўніка.

Быў у нас кіраўнік, які хоць нічога й не рабіў, але наведваўся да піонэраў. Кіраўнікжа, якога нам далі цяпер, нават і не паказваецца на вочы піонэрам.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што комсамольская ячэйка ня зусім яшчэ зьвязана з нашым жыцьцём.

Мы чакаем ад яе дапамогі.

Піонэр **Л. С.**

## Нашы майстэрні.

*(г. Барысаў 6-ы атрад).*

У нашым цэнтральным клюбе ёсьць дзьве майстэрні: сталярная й пераплётная.

Сталярная майстэрня даўно ўжо працуе, і вырабляе добрыя рэчы. Гэта відаць з таго, што яна ўжо зрабіла 30 табурэтак і скамейкі для свайго клюбу.

Табурэткі мы прадалі за 50 рублёў, грошы скарысталі на патрэбы клюбу.

Пераплётная майстэрня пачала працаваць нядаўна. Толькі бяда, што ў пераплётнай майстэрні няма настаўніка.

**Маза Б. і Двошкінд.**

## Як працуе наша зьмена.

У Бярэзінскім раёне ў верасьні месяцы 1924 г. з'організавалася група „Чырвоных зорак". Спачатку праца йшла ня вельмі добра. Мы ня ведалі, як павесьці з імі працу й ня было кіраўніцтва.

З часам праца наладзілася. Зараз наша група мае свой куток „Чырвоных Зорак" у нашым клюбе. 15 лепшых дзяцей „Чырвоных Зорак" перададзена ў піонэрскі атрад.

Піонэр.



**Як правільна аддаваць салют.**

# ШТО РОБЯЦЬ ШЭФЫ.

## Вось дык шэф!

*(Рагачоў).*

Над нашым атрадам прынялі шэфства комунальнікі.

Клюбу свайго ў нас ня было і мы хадзілі ў клюб шэфа. Раз прышлі мы на заняткі ячэйкі. Чакаючы заняткаў мы пачалі гуляць. Гульня наша зусім не парушала парадку ў клюбе. Але аднаму з сяброў клюбу не спадабалася наша прысутнасьць. Напоўніўшы пажарную кішку вадою, ён накіраваў яе на нас. Мокрыя з крыкам мы пакінулі клюб шэфа.

Нам, здаецца, што пажарная кішка трэба ў клюбе не для таго, каб выганяць піонэраў, а на выпадак пажару.

**Піонэркі 10-га атрада імя К. Маркса.**

## Дрэнныя шэфы.

*(М. Беларучы, Менскай акругі).*

Над нашым атрадам узялі шэфства: Копэрацыя, Беларуцкая пажарная дружына і сельсавет. Але нашы шэфы, як убачылі, што трэба нам дапамагаць, як-нібудзь і чымнібудзь, то, як кажуць, і „хвастом накрыліся“.

Быў у нас клюб, а цяпер і той ад нас адабралі пад казарму дапрызыўнікам.

Піонэраў з 30 засталося толькі 15 чалавек.

Трэба, каб нашы шэфы ўзяліся за справу, дапамаглі нам, каб не раскідаўся наш атрад зусім.

Піонэр **Малей**.



Дзіцячы дом імя т. Чарвякова за працаю ў каленіі „Анопаль“.

## Мы ўзялі шэфства.

*(Прапойск, Магілеўскія атрады).*

Нашы атрады хадзілі па вёсках і з'організоўвалі там піонэрскія атрады.

Гэтыя атрады дагэтуль працавалі дрэнна затым, што ў іх ня было шэфа.

На зборы нашых атрадаў мы ўхвалілі ўзяць шэфства над гэтымі атрадамі.

Цяпер у гэтых атрадах праца пачала наладжвацца.

Піонэр **Гурэвіч**.

## Шэф дапамог.

*(М. Шчэдрын, Парыцкі раён).*

Да 7 лістапада мінулага году ў нас ня было шэфа, што вельмі дрэнна адбівалася на нашай працы.

У дзень сьвяткаваньня Кастрычнікавай рэволюцыі наш коопэратыў прыняў над намі шэфства. Шэф дапамагае нам ва ўсім, у чым мы адчуваем патрэбу.

Піонэры: **Грынштэйн і Нехіна**.

# ПА НАШЫХ ФОРПОСТАХ.

## Работа форпоста.

(*Журавічы, Магілёўскай акр.*).

Тры-чатыры месяцы ўжо, як у нас існуе форпост. У яго складзе налічваецца каля 80 чалавек. Увесь час форпост працуе і праводзіць піонэрскую лінію сярод неорганізаваных вучняў.

У школе адчуваецца ўплыў піонэраў: вучні на лекцыях не займаюцца абы чым, як гэта было раней, а слухаюць лекцыі ўважліва. Усё гэта—дасягненьні форпоста. Піонэры карыстаюцца аўторытэтам і павагай, як сярод вучняў, так і сярод настаўніцтва.

Форпост наладзіў сувязь з перадавым настаўніцтвам.

Піонэры вядуць агітацыю сярод вучняў за падпіску піонэрскіх выданьняў.

Ня гледзячы на такую працу, сярод нашых піонэраў ёсьць вялікі недахоп—гэта адсутнасьць дысцыпліны.

Бліжэйшым заданьнем форпоста будзе: падняць дысцыпліну форпоста. З гэтым заданьнем форпост павінен справіцца.

Пікоры: **Ваткевіч і Ліўшыц.**

## Форпост, прачніся!

Ужо два месяцы, як пры Задубскай школе організаваўся форпост.

Форпост налічвае ў сваім складзе 34 піонэры і падзяляецца на два зьвяны. Але форпост так і застауся ў стане організацыі, і ніякай працы не распачаў.

Многа вучняў нашае школы падалі заявы аб уступленьні ў форпост, але прашло ўжо з паўмесяца, а адказу няма.

Форпост! пара ўзяцца за працу!

**І. Старасьценка.**

## Форпост адчуваецца.

(*г. Клімавічы*).

У нас у школе ІІ-ой сямёхгадоўкі імя Калініна праца форпоста адчуваецца ўсюды.

Спачатку, калі з'організаваўся форпост, ён працаваў вельмі ў дрэнных умовах. Але паступова праца йшла наперад і наперад. Цяпер праца йдзе вельмі добра. У кожнай комісіі мы маем свайго прадстаўніка ад форпоста. Праводзім вечары, розныя кампаніі і г. д.

Піонэр **Н. Бярозкін.**

## Форпост, чаму не працуеш?

(*г. Барысаў*).

Пры 6-ай школе ёсьць форпост, які налічвае 96 піонэраў. Працы ніякай ён не вядзе. Сходы форпоста рэдка калі бываюць.

Калі былі зімовыя канікулы ўсе форпосты пастанавілі вучыць тых піонэраў, якія больш адсталыя. У нашым-жа форпосьце гэтага ня было. Наш форпост нічога ня робіць.

Форпост, вазьміся за працу, як і другія форпосты!

Пікор **Двожкінд.**

## Пара пачаць працу.

(*7-я школа, Менск*).

У нас у школе два месяцы таму назад з'організаваўся форпост. Ня гледзячы на доўгі тэрмін, ён яшчэ працы ніякай не пачаў. Было толькі два зборы.

З 80-цёх чалавек зьявілася толькі 30 піонэраў на збор.

Піонэры павінны быць прыкладам у школе. Форпост, ня сьпі!

Пікор **Кроль.**



# БУДУЕМ СВАЕ КООПЭРАТЫВЫ.

## Патрэбен школьны Коопэратыў.

(*Гор. Барысаў*).

У нас у г. Барысаве ёсьць восем школ, а школьнага коопэратыву—ніводнага. Гэта вельмі дрэнна. Вучань у школьным коопэратыве таней мог-бы купіць патрэбныя яму рэчы, чымся ў прыватных гандляроў.

Піонэр 13-га атраду
**М. Клебанаў.**

## Адчынілі коопэратыў.

(*М. Койданава, Койданаўская сямёхгадоўка*).

Нядаўна на агульным сходзе вучняў пастанавілі сабраць узносы і адчыніць свой коопэратыў.

Усе згадзіліся.

Цяпер і гора мала. Ня йдзём купляць к прыватнаму гандляру. Купляем у сваім коопэратыве, бо тут таней і выгадней.

Вучань **Досін.**

* * *

Пры Сьвіслацкай сямёхгадоўцы нядаўна адчынілі школьны коопэратыў. Для вучняў гэты коопэратыў мае вялікае значаньне. Тут яны могуць купіць падручнікі і ўсе вучнёўскія прылады куды таней і схадней чымся ў прыватных крамах.

Трывога ахапіла гэтых крамнікаў: яны нажылі сабе моцнага конкурэнта; вучні ня йдуць больш у іх крамы.

Піонэр **Гэрцэвіч.**

## Наш коопэратыў.

У Мельчыцах, Мазырскай акр. організаваўся дзіцячы коопэратыў. Праца коопэратыва наладжваецца; адно толькі кепска—гэта ненормальная дастаўка тавараў.

Тавары мы закуплялі праз Мазырскую коопэрацыю, а яна, па якойсьці прычыне, прысылала ня ўсе патрэбныя нам тавары і не заўсёды. Цяпер мы рашылі зьвязацца з Менскай дзіцячай коопэрацыяй „Юны Піонэр“, якая будзе дастаўляць нам тавары своечасова і ўсе патрэбныя.

Пайшчык **Г. Я.**

## Коопэратыў працуе.

(*18-я і 1-я школы, Менск*).

Наш коопэратыў з‘організаваўся ў пачатку вучэбных заняткаў.

Вучні абедзьвюх школ выбралі праўленьне коопэратыву і праца пашла добра.

Цяпэр коопэратыў працуе ў дзьве зьмены: раняшнюю й вячэрнюю.

Тавары для продажы дастаўляе Цэнтрабелсаюз. Уступны ўзнос назначаны ў разьмеры 15 кап. Усяго сяброў коопэратыву налічваецца каля 200. Сябры коопэратыву могуць атрымліваць тавары з коопэратыву ў крэдыт і рассрочку платы.

За ўвесь час працы коопэратыў набыў 49 руб. прыбытку.

Грошы будуць скарыстаны на патрэбы школ і коопэратыву.

Пікор **Аганёк.**

---

# ПА КЛЮБАХ.

## Бяз клюбу дрэнна працаваць.

(*I-ы атрад, Менск*).

Раней мы праводзілі заняткі зьвеньняў і зборы атраду у клюбе пры аб‘яднанай профшколе. Далей-жа нам не дазволілі займацца ў клюбе профшколы.

Потым нам дазволілі правесьці зборы ў клюбе імя „Карла Лібкнехта“. Заняткаў-жа ў гэтым клюбе праводзіць нельга, бо ўсе пакойчыкі заняты.

Мы парашылі пасьля ўсяго гэтага праводзіць заняткі ў асобных піонэраў дома. Заняткі ў нас бываюць два разы на тыдзень.

Без свайго клюбу вельмі дрэнна працаваць.

Хто дапаможа нам знайсьці клюб для працы?

Піонэр **Каплан.**

## Няма клюбу.

42-гі атрад піонэраў ст. Віцебск паўночна-заходн. чыгунак ня мае клюбу, а атрад організаваўся восем месяцаў таму назад.

З гэтай прычыны праца атраду йдзе слаба, бо піонэрам няма дзе працаваць.

Шэф, памажы дастаць клюб!

Піонэр **Н. Зорын.**

# Як мы адваявалі сабе клюб.

*(в. Бясэдавічы Хацімскі р. Калінінск. акр.).*

Доўга ў нас ня было клюбу, а вядома кожнаму, што бяз клюбу немагчыма і сталая праца.

Мы пачалі прасіць сельсавет, каб ён падшукаў нам будынак. Сельсавет знайшоў нам куток у сваёй канцэлярыі.



Дзіцячы дом імя Чарвякова ў колёвіі „Анопаль“.

Але працаваць у нашым клюбе было не магчыма. Сяляне, якія прыходзілі па справах у сельсавет, ніколі ня вылазілі з нашага клюбу. Пры гэтым часта зрывалі лёзунгі, плякаты ды курылі і інш.

Сталі мы прасіць сельсавет, каб ён звольніў наш клюб ад канцэлярыі, але сельсавет і слухаць гэтага не хацеў.

Мы зьвярнуліся да Райкому. Райком зрабіў захады перад сельсаветам, каб клюб наш звольніць ад канцэлярыі, што, праўда, было і зроблена.

Калі сельсавет звольніў для нас клюб, то ў ім былі адны голыя сьцены. Працаваць у гэткім клюбе было не магчыма. Але мы хутка самі ўзяліся за адбудову свайго клюбу.

Сельсавет дазволіў нам узяць з школы некалькі дошчак. Апрача гэтага трохі дошчак сабралі піонэры. Клюб адбудавалі.

Цяпер піонэрам ёсьць магчымасьць працаваць у клюбе.

Піонэры Г. **Ахрэмкін.**
і Янка **Курдычка.**

---

**Атрады і піонэры! Памятайце, што часопісь больш рассылацца дармова ня будзе. Сьпяшэце з падпіскай.**

**Наше заданьне: Кожнае зьвяно павінна падпісацца на 2 нумары „Беларускага Піонэра“.**

---



# Будзь здароў.

Піонэр, ты павінен ведаць, што лёзунг „будзь гатоў“ ня будзе выкананы бяз лёзунга „будзь здароў“ Перад табою вялікая будучына. Кім-бы ты ні стаў, дзе-б ты ні працаваў—на фабрыцы, прадпрыемстве, установе, вёсцы, арміі, флёце—ўсё роўна апрача ведаў і вопыту, патрэбна здароўе. Усе твае веды й багаты вопыт не дапамогуць табе, калі ты будеш хворым і слабым.

Дзеля захаваньня свайго здароўя й разьвіцьця свайго організму ты павінен быць знаёмым з навукай, якая называецца фізычнай культурай. Гэта навука вучыць нас, як трэба праводзіць сваё жыцьцё, каб пазбавіцца цэлага шэрагу хвароб, як разьвіць мускулы і сэрца—моцнымі, лёгкія—здаровымі.

Дасягаецца гэта пры дапамозе фізычных практыкаваньняў, якія складаюцца з цэлага шэрагу рухаў. Карыстацца гэтымі фізычнымі практыкаваньнямі трэба ўмеючы і асьцярожна пад наглядам вопытнага кіраўніка. Тады толькі можна будзе бачыць карысць ад іх.

А дзеля таго, каб быць здаровым, адных фізычных практыкаваньняў мала: ты павінен ведаць як збудаваць сваё жыцьцё, каб яно было здаровым і прыемным, у якіх умовах трэба працаваць, вучыцца, што трэба зрабіць, каб менш цябе ўтамляла і больш прыносіла карысьці, як трэба адпачываць, гуляць і г. д. Вось аб гэтым я хачу пагаварыць з табой і навучыць цябе.

Ты павінен ведаць, што большасьць хвароб прыносіць з сабою гразь, атсутнасьць чыстаты цела, пыл. Але усяго гэтага мы, зразумела, можам пазбавіцца, калі будзем трымаць у чыстаце цела, бялізну, адзежу, памяшканьне, дзе абедаем, адпачываем, сьпім, школу дзе вучымся, клюб, дзе разьвіваемся і забаўляемся.

Якім-жа шляхам трэба трымаць сваё цела ў чыстаце? Дзеля гэтага шмат чаго й ня трэба; патрэбна толькі прывычка. Трэба прывучыць сябе пасьля сну раніцаю не валяцца на койцы,а зараджа ўзяцца за ўмываньне: выціраць добра рукі, твар, вушы, шыю, а зусім добра будзе прывучыць сябе абмываць грудзі й сьпіну. Прывучаць абмываць грудзі й сьпіну трэба пачынаць з раньняга лета, вадой некалькі больш цёплай, чымся хатняя. Пасьля абмываньня вытры сябе ручніком і ты адчуеш, як прыемна будзе гарэць тваё цела і як будзе лёгка табе.

Пачаўшы абціраць сваё цела з лета, прадаўжай да восені. У восень альбо наогул, калі цябе будзе ў атрадзе аглядваць доктар, спытайся ў яго, ці можна табе далей рабіць абціраньні.

Памыўшыся, такім чынам, раніцаю, можна прыступаць да яды, а потым да спраў. Пасьля працы вазьмі сабе за правіла не садзіцца есьці да тых часоў, пакуль не памыеш зноў рукі і твару. За справамі прыдзецца табе бываць у шмат якіх мясцох, браць у рукі падручнікі, кніжкі, сшыткі датыкацца да сталоў, скамеек, дзьвярэй, хадзіць па пыльных вуліцах. Значыць, рукі ў цябе будуць пыльныя і брудныя, а прымаючы яду з такіх брудных рук, можаш перадаць заразу.

Перад сном зноў вымый рукі, твар і вытры цела. Добра й карысна будзе, калі прывучышся абмываць і ногі.

Але мала толькі трымаць цела ў чыстаце. Ты павінен абавязкова кожную нядзелю хадзіць у лазьню, а ўлетку што дня купацца, але ня больш 2-х разоў у дзень, раніцаю да 11 гадзіны і ўвечары пасьля 5-цёх (у дзень вельмі гарача й купацца шкадліва).

Падстрыгай і вычышчай кожны дзень свае ногці, прарабляй тое-ж самае й на нагах.

У наступным нумары будзем гутарыць з табою далей, а тым часам падумай над тым, што я табе сказаў і пастарайся гэтае выканаць, калі што табе незразумела, альбо што цікавіць цябе, папытайся—адкажу й растлумачу.

**Лукашэвіч.**





# Як зрабіць шпакоўню.

Змайстраваць шпакоўню—справа вельмі простая: узяць некалькі дошчачак, зьбіць з іх скрынку у 45—50 сант. вышынёй, 20 сант. шырынёй абодвы бакі; прабіць, адступіўшы на 10 сантым. Зьверху лётку-дзірку ў 5 сантымэтраў у папярак,—шпакоўніца гатова. Можна замест скрынкі і дошчак зрабіць шпакоўніцу з абрубка дрэва, выдаўбленага ў сярэдзіне і патрэбнага разьмеру; дно й верх забіць дошчачкамі.

Пад лёткаю можна усадзіць палачку, на якой будзе садзіцца шпак. Скрынка (ці абрубак) павінна быць абавязкова глыбокая (ня меней 50 сант.) дзеля таго, каб кошка, засунуўшы лапу ў лётку, не магла дастаць дзяцей, ці сядзячую на яйцах шпачку.

Лётку, большую за паказаны разьмер нельга рабіць, каб у яе не маглі залазіць розныя ахвотнікі да шпаковых яец і птушанят (вароны, сарокі, сойкі, ваверкі); стары вопытны шпак ня будзе й гнязьдзіцца ў такой шпакоўніцы.

Дзеля бясьпечнасьці гнязда ад няпрошаных гасьцей часамі робяць у шпакоўніцы, на палавіне яе вышыні, папярэчную перагародку з дзіркаю ў сярэдзіне.

Прывязаць шпакоўніцу да дрэва (ці да жэрдкі) трэба моцна, каб ня скінуў вецер і як мага вышэй—шпакі хутчэй знайдуць і бясьпечней ад кошкі. Апрача таго, трэба прывязваць шпакоўніцу лёткаю да паўднёвай старонкі, бо птушаняты ня любяць паўночнай.

Калі шпакоўніца ставіцца не на дрэве, а на жэрдцы, то да верхняга канцу яе патрэбна прывязаць сукаватую галінку, ня якой шпак будзе сьпяваць свае песьні ў той час, калі шпачыха будзе сядзець на яйках.

Шпак—вельмі разумная птушка—уважліва аглядзіць сваё будучае мяшканьне з усіх бакоў, перш чым у ім асесьці, і калі што троху ня так—кіне, і шпакоўніца будзе пуставаць.

**М. К.**

# Нашы гульні.

## Ґульня ў жабы.

Прымаюць удзел у гульні ад аднаго да двух атрадаў.

Зьвеньня або атрад цалкам растаўляюцца на аднэй лініі, на аднолькавай адлегласьці адзін ад другога. Па сыґналу ўсе апускаюцца і робяць прысяданьні, рукі на бёдра. Пляцоўка, дзе адбываецца гульня, становіцца нібы балотам. Усе, хто прымае ўдзел у гульні, па командзе „тры“ пачынаюць „па жабінаму“ квакаць, скакаць да адзначанага месца. Зьвяно, альбо піонэр, якія прышлі першымі, выігрываюць. Тыя, хто ўтаміўся па дарозе, застаўся, прысеў на зямлю і г. д., лічацца загінутымі жабамі і выбываюць з гульні.

Чым менш застаецца на балоце жаб, тым гульня цікавей.

**Месца для гульні.** Адчыненая роўная пляцоўка разьмерам 30 на 8 саж. і больш.

## Гульня ў вяроўку.

У гульні прымаюць удзел ад двух зьвеньняў да двух атрадаў.

**Апісаньне гульні.** Усе, хто прымае ўдзел у гульні, дзеляцца на дзьве часткі. Кожная з частак паварачваецца тылам сябар да сябра так, каб першыя нумары абодвых шэрагаў сталі тварам сябар да сябра. Праз рукі ўсіх прапускаецца вяроўка.

Па сыгналу абодва шэрагі пачынаюць цягнуць вяроўку, кожны ў свой бок. Паміж двома шэрагамі праводзіцца лінія. Той шэраг, які будзе прымушан пераступіць лінію, лічыцца прайграўшым.

**Месца для гульні.** Вялікая роўная пляцоўка, альбо саля.

**Падсобкі для гульні.** Вяроўка.



# Краязнаўчая праца.

Беларусь-краіна адсталая, як эканомічна так і культурна. Вякамі яна знаходзілася пад уціскам царскага ўраду і толькі цяпер пры савецкай уладзе паступова пачынае адраджацца.

Вялікую працу па адраджэньню Беларусі праводзіць цяпер комуністычная партыя.

Задача піонэраў: дапамагчы партыі, комсамолу ў гэтай працы.

Да гэтага часу мы мала яшчэ знаёмы з нашай краінай. Але вывучэньне роднае краіны ўжо распачата. Для гэтае мэты ўтвараюцца спэцыяльныя краязнаўчыя таварыствы. У працы гэтых таварыстваў комсамол пачынае прымаць актыўны удзел.

Чарга за піонэрамі. З надыходам веснавога пэрыоду маецца больш магчымасьцяй разгарнуць гэтую працу.

### Як працаваць?

Атрад павінен зараней умовіцца з комсамольскай ячэйкай аб тым, якую працу ён правядзе ў гэтым баку.

Па нашых родных вёсках засталося шмат розных казак, былін, песьняў ад старых часоў. Па іх можна даведацца, як жылі людзі даўней, як ішло разьвіцьцё нашае краіны.

Піонэры павінны такія казкі й песьні запісваць, бо яны маюць вялікае значаньне й каштоўнасьць.

Апрача гэтага, можна рабіць узоры вопраткі старых часоў і сельска-гаспадарчых прылад.

Нашы вясковыя дзеці вельмі часта ня ведаюць, дзе пачынаецца рэчка, што цячэ каля іх вёскі, куды яна ўпадае. Таксама шмат хто з піонэраў ня ведае добра аб пабудове зямлі, аб лесе і г. д., што знаходзіцца каля іх вёскі.

З усім гэтым кожны піонэр павінен пазнаёміцца, запісаць аб чым даведаецца.

Шмат чаго ў гэтых адносінах можна даведацца ад старых людзей, з гэтаю-ж мэтаю ўжываюцца экскурсіі.

Ад старых часоў па розных вёсках і каля вёсак засталося шмат помнікаў. На экскурсыях можна рабіць замалёўкі гэтых помнікаў,

Амаль што не па ўсёй Беларусі сустракаюцца курганы. Пры раскопках гэтых курганоў знаходзяць шмат даўнейшых рэчаў хатняга ўжытку.

Неабходна заўсёды умаўляцца з настаўнікам, комсамольскай ячэйкай, як зрабіць экскурсію туды і правесьці раскопкі. Зразумела, калі ёсьць магчымасьці.

Праца, здаецца, дробная, якая ня мае вялікага значаньня. На самай-жа справе пры ўдзеле ўсяго піонэр-атраду мы зможам даць вялікую дапамогу ў вывучэньні нашае роднае краіны.

Павадыру неабходна дагаварыцца з краязнаўчым таварыствам, якую й дзе праводзіць працу.

Дык ахвотна за працу!

**Міхась.**

# Навіны навукі й тэхнікі.

## Самая большая паравая турбіна.

Кожны з вас бачыў, або чуў, што ёсьць паравыя машыны. Гэтыя машыны працуюць пры дапамозе пары. Пара прыводзіць у рух вялікае кола. На гэта кола начэпляна многа пасоў, якія ў сваю чаргу прыводзяць у рух многа іншых калёсікаў.

Самая галоўная частка ў паравой машыне—гэта *турбіна.* Ад сілы турбіны залежыць уся праца й другіх частак машыны. Калі турбіна выпрацоўвае многа сілы, то ад яе атрымаеш больш карысьці.

Згодна апошніх вестак пабудавана цяпер самая большая ва ўсім сьвеце турбіна—у Амэрыцы. Сіла гэтай турбіны: 80000 конскіх сіл.

## Самалёты бяз пілотаў,

*Аўтомабілі бяз шофэраў і параходы бяз людзей.*

Як нам ведама, самалёты, аўтомабілі і параходы кіруюцца чалавекам.

Але нам таксама вядома, што мы можам за соткі вёрст гаварыць з кім небудзь па так званаму „Радыо-тэлеграфу“ бяз дапамогі дроту.

Сучасная навука пашла вельмі далёка. Яна дашла да таго, што радыям замяніла чалавека пры кіраваньні машынамі. Даволі паставіць апарат на самалёце, або на аўтомабілі, а другім апаратам адкуль небудзь кіраваць ці з зямлі, ці нават з другога самалёта або аўтомабілі. Аўтомабіль будзе ехаць бяз шофэра, куды ты захочаш.

Доўга й даўно ўжо вучоныя розных буржуазных старонак думалі, каб зрабіць такі самалёт, або параход, якія-б кіраваўся не чалавекам а машынаю.

Яшчэ ў 1897 годзе ў Ангельшчыне два вынаходцы Вільсон і Эванс рабілі розныя вопыты ў гэтай галіне. Але ім канчаткова не ўдалося зрабіць такой машыны, якая-б замяніла чалавека. Толькі ўжо пазьней інжынэры Нямеччыны, а разам з імі трохі пазьней у 1910-13 гадох Амэрыканцы, дабіліся таго, што знашлі такую машыну

Капіталісты зразу ўбачылі, што такую машыну можна добра скарыстаць для вайны. Яны не шкадавалі сродкаў для розных досьледаў у галіне радыо мэханікі

Яшчэ перад вялікаю імпэрыялістычнаю вайною адзін нямецкі інжынэр працуе ціханька, каб не даведаліся другія старонкі, над параходам, які-б мог іці па вадзе бяз людзей.



Самалёт кіруе параходам.

І вось немцы ў часе вялікай вайны ў 1917 г. 2-га сакавіка такі параход начынілі рознымі ўзрыўчатымі рэчамі і пусьцілі яго к сваім ворагам у гавань гораду Ньюпора.

Тут многа было саюзнага войска. Параход выкіраваўся на бераг, разарваўся і вельмі многа нарабіў шкоды.

Гэты параход кіраваўся самалётам па радыё. Самалёт ляцеў вельмі высока.

Францыя таксама хутка даведалася, як рабіць такія самалёты й параходы.

Але ў часе вайны было такіх самалётаў і параходаў мала, бо іх нядаўна прыдумалі і мала было спэцаў іх вырабляць.

Цяпер яшчэ амэрыканцы, згодна апошніх вестак, прыдумалі аўтамабіль бяз шофэра—кіруецца радыям. Яны думаюць скарыстоўваць такія аўтамабілі ў часе вайны. Накладуць туды бомбаў, дынаміту пастановяць аўтоматычныя пушкі і пусьцяць ў войска ворага. Гэты аўтомабіль і будзе біць і калечыць людзей.

На аснове дасягнутых ужо вынікаў у галіне радыя, навука кажа, што магчыма пабудаваць такія цягнякі, якія будуць хадзіць па паветры на вышыні 12-13 кілём. (каля 12-13 верст). Яны будуць кіравацца з зямлі па радыё.

**С. Шыманскі.**



# ЧЫРВОНЫЯ ЗОРКІ.

## У незнаёмай рацэ.

(*Малюнак*).

Удачны дзень сягоньня. Ніхто клясьці яго ня зьбіраецца. Ды куды там—пагода, як дым, сонца, як жар, а неба, як зялёны яблык.

Яшчэ з самага ранку павыбягалі ўсе дзеці з хат, каб палюбавацца сёньнешняй пагодай. Усе яны абкідалі вачыма навокал неба, сонца, чхалі ад лішняга сьвету і радымі за добрую пагоду ішлі да хаты сьнедаць. Нават есьці абы чаго не хацелася сёньня дзецям. На двары, дык як у сьвята, а ў хаце халаднік падсоўваюць ім пад нос. О то-ж злосьць тады бярэ!..

У Пракопавых Тодара хлопцы дык пасварыліся з маткаю.

— Пятніца некая, сама пасьці...—крычаў усхліпваючы Ігналя на матку.

А матка з карчаком:

— Сядзь, ліха тваёй галаве, сядзь, жаба ты!..

Праўда, сварыліся хлопцы нядоўга з маткаю. Яны зьбіраліся сягоньня іці гуляць за „гарэшнік“ і з гэтай прычыны сьпяшаліся.

Хутка пад вокнамі Тодара крычалі хлапчукі:

—Ігналя, Лявон,—айда!

Усе хлопцы былі вясёлымі, здаволенымі і сягоньнешнім днём, і тым, што яны накіроўваюцца сягоньня ў новае зусім месца. Кампанія зьбіралася толькі з пяцёх чалавек: Ігналя, Лявон, Зьміцер, Паўлюк і Алесь.

Хлопцы набралі з собою ў кішэні хлеба, сярнічак, тытуну і весела пашагалі падсьвіставаючы. Усім ім яшчэ толькі гуляць. Кароў іх пасьвіць не выпраўляюць, бо малыя, дома не затрымоўваюць, бо вельмі-ж абрыдаюць матцы з дурэньнем. А хлопцам гэта і добра. Кожны дзень сабе, то ў лес, то на рэчку, то яшчэ куды. Асабліва бяда ад іх гнёздам. Хоць, праўда, хлопцам кожны дзень і гавораць старэйшыя іх таварышы, піонэры, што гнёздаў скідаць ня можна, але-ж пакуль што яно так. А Ігналя той заўсёды адно адказвае:

— Мы з ясцэ не піванэры. Прымеце нас, ня будзем чапаць гнёздаў.

Піонэры круцілі, круцілі, ды нічога ня выходзіла. Прыняць гэтых хлапцоў было нельга, бо ні водзін з іх не дарос яшчэ.

* * *

Каля высокага стромкага алешніку цякла невялічкая рэчка. Гэтая рэчка была пакручаная ў дзесяць пагібелей. І толькі ля палосы алешніку, якая ўразалася няма ведама адкуль у высокі бераг, рэчка цякла роўна.

Каля рэчкі, апрача алешніку, сенажаць, кусты, канава што з балота цячэ. Балота з трох бакоў ахінаецца лесам—бярэзінай і алешынай. Расьце яшчэ добра гарэшына, з якой добра хлопцам абручы зразаць.

Кампанія малых падарожнікаў застанавілася ў рагу алешнічку каля рэчкі.

Праз некалькі хвілін хлапцы пачалі купацца, бо гэта самая першая заўсёды частка гульні хлапцоў.

Хлапцы спрытна разьдзяваліся, шабалдыхалі ў рэчку і зьнікалі недзе на дне.

Купаньне зацягнулася доўга, на гадзіны тры.



Хлапцы купаюцца.

Адзін перад другім лёталі хлопцы грудзямі на хвалях рэчкі. Ігналя толькі падаваў заўсёды каманду, калі ішлі на выперадкі. Камадаваць Ігналя вельмі любіў і лічыў сябе камандырам ня меншым, калі ня большым, як афіцэр Чумазаў, які ў іх кватараваў усё лета. У Ігналі-ж нават і „рэвольвэр“ маецца свой.

— Не падхадзі за тры шагі—застрэлю,— крычыць Ігналя ўвечары на вуліцы.

— Я цябе застрэлю, жаба ты смаркатая— лаяліся некаторыя з старых на Ігналю. Тады Ігналя насыпаў у бранку пораху (кусочкі дробу ў рулі былі заўсёды на гатове) падыходзіў да хаты чыёй небудзь і зьнячэўку жарыў. А выпаліць—драла. І так цэлы вечар. Усіх дзяцей з вёскі пазьбірае Ігналя каля сябе і ходзяць па вуліцы гуртам, жартуюць. Гора кату, або сабаку, калі прабяжыць каля гэтай арміі. Усё роўна хоць нагу пераб'юць каменем.

Каля рэчкі было ціха і супакойна. Хлопцы купаліся сабе, сонца пякло горача, пелі птушкі зычна ў небе песьню.

Аж раптам Лявон закрычаў:

— Ратуйце!.

Голас яго вырваўся, як з-пад зямлі, з пад вады і зьнік зноў у вадзе. Толькі бурбалкі сыпаліся на тым месцы, адкуль закрычаў Лявон.

Хлопцы не драмалі. У момант усе былі на тым месцы. Пачалі нырца біць, шукаць. Нашлі тут-жа.

Але ня выцягнуць. Нешта яшчэ цягнецца з Лявонам...

— Братцы, вадзянік!—крыкнуў адзін з хлапцоў. Усе папужаліся. Пачалі кідаць Лявона, які ўжо толькі хроп, і шмыгаць наперад. Але Ігнась ня спужаўся, ён сьмела расьсякаў хвалі рэчкі, цягнуў Лявона і зваў на дапамогу другіх.

Хлопцы асьмеліліся. Гуртам выцягнулі Лявона на бераг. Нічога другога з Лявонам ня было; невядомае зьнікла.

— Сом, я ведаю—крычаў Алесь.

Лявон-жа ляжаў і хроп. У горле яго пералівалася яшчэ вада. Хлопцы спужаліся і пачалі плакаць.

— Што-ж будзем рабіць... Што рабіць...— плакаў і Ігнась

Але на шчасьце на крык найшоў пастух Язэп, які шукаў каля рэчкі згубленых кароў.

Язэп (стары пажылы чалавек) хутка ўхапіўся ратаваць Лявона. Некалькі раз пеpакуліў Язэп яго, пакачаў, паціскаў, выціснуў лішнюю ваду і Лявон прачнуўся.

А к вечару хлопцы вялі свайго сябра пад рукі дамоў да маткі.

Ігналя ніяк ня мог устрымлівацца і цяпер—ён плакаў і праклінаў рэчку.

— Не, больш гэтага ня будзе.

Не пайду ў незнаёмую рэчку.

**А. Чурылавец.**



# Паштовая скрынка.

**Кавалевічу Ўл.** Друкаваць нельга. Вельмі-ж слабы. Трэба вершы больш апрацоўваць, больш думаць над імі. Апрача гэтага, трэба або быць добрым музыкам, каб чуць дасканала музыку, гладкасьць вершу, або ведаць законы вершаваньня. У цябе-ж якраз ня чуецца ні таго ні другога, напрык.

...Гэта было познай вясной,
Шчытаць ужо ўлетку,
Як беларускі піонэр
Убачыў першу кветку...

**Стрыгешскаму А. І.** Прабуйце больш пісаць. Гэтага вершу пакуль што друкаваць яшчэ нельга. Але чуваць у вас сапраўднае жаданьне пісаць. Пішыце, чытайце, толк павінен выйсьці, як відаць ужо з першага вершу.

**Вербаху І.** На расійскай мове вершаў не зьмяшчаем пакуль што. Прабуй пісаць пабеларуску, аддаваць твае вершы для перакладу ня варта.

**Цуранаву Т.** Лепш пачытай, брат, як напісаны вершы. Слабавата. Ды й тэма ўзята зусім старая. Друкаваць нельга. Чакаем новых,—можа й падыдуць некатарыя да друку.

**Нодэльману.** Напісана гладкавата, але ня зусім. Шмат трэба яшчэ працаваць табе над самім сабою, каб гладка пісаць вершы. Пішы пабеларуску, відаць, ты беларускую мову таксама ведаеш, калі ўжываеш у вершу шмат беларускіх слоў. Тэмы бярэш добрыя для частушак. Старайся паправіцца ў пісаньні, каб гладка выходзіла, каб тваю частушку можна было пець пад гармонік.

**Кавалёву Ўл.** Верш да друку не падходзіць. Апавяданьне скарыстаем.

**Айнбіндэру.** Пярэдана ў ЦБ юных Піонэраў.

**Шматкову.** Надрукуем у чарговым нумары.

**Хазанаў.** „На маё чэснае піонэрскае слова“ спазьнілася. Рэдакцыя зусім згаджаецца з тваёй думкай, што выкідваць піонэрам „чэснае піонэрскае слова“ лішне. Калі ён піонэр, то яго кожнае слова павінна быць праўдай.

**Гразоўскаму Якубу.** Перадай лепш у сваю насьценную газэту. Дробны факт.

**Германовіч Я.** Дзе-ж ты, брат, дзеўся. Рэдакцыя ўжо забіраецца заявіць у міліцыю, што ты прапаў. Пішы.

**Малевічу.** Вершы, брат, не ўдаюцца ў цябе. Апавяданьні і п'ескі ўжо пішаш ні што-б сабе. Матэрыялы будзем памаленьку друкаваць.

**Сільчэнкаву.** Пярэдана ў ЦБЮП для разгляду.

**Баранкевічу Юрку.** Твой верш патрапіў у рэдакцыю з Ю. С. Але-ж друкаваць ня будзем, бо напісаны парасійску. Напісаны, праўда, вельмі добра, лёгка, музычна, мова добрая і ўвесь наогул верш пакідае добрае ўражаньне.

**Запытаньне.** Ці можна пасылаць корэспондэнцыі ў рэдакцыю бяз марак?

**Адказ:** У крайнім выпадку, калі няма ані грошай, можна і бяз маркі.

## Увага піонэрам, подпісчыкам „Юного Строителя“.

Усім падпісчыкам „Юного Строителя“, якія не атрымоўвалі згодна падпіскі апошні месяц упамянёнай газэты, рассылаецца пяты нумар часопісі, „Беларускі Піонэр“. Рэдакція упэўнена, што грошы ў ліку па 10 к. (часопісь каштуе 20 к. а падпіска „Ю. С“ на месяц каштавала 10 кап.) будуць прысланы піонэрамі—падпісчыкамі „Ю.С.“ разам з падпісной платаю на сваю часопісь „Беларускі Піонэр“. Рэдакцыя ад вас, таварышы піонэры, чакае гэтага.

Часопісь наша ужо каштуе ўсяго 20 кап. на месяц. Шлеце грошы на падпіску.

## Усім павадыром атрадаў.

Рэдакцыя просіць вас падняць пытаньне ў кожным атрадзе аб падпісцы, аб сувязі піонэраў з сваёй часопісью.

# Увага піонэрам!

На днях, 1 чэрвеня, выходзіць з друку першае выданьне маладняцкіх твораў, 7 кніжачак вершаў і прозы.

**Ўл. Дубоўка**—вершы
**М. Чарот**—вершы
**К. Чорны**—апав.
**А. Бабарэка**—апав.
**Крапіва**—сатыра-вершы
**Я. Пушча**—вершы
**Пфлямбаум, Бандарына і Вішнеўская**—вершы, колектыўны зборнік

Зборнікі будуць каштаваць ня больш, як па 10—15 кап. кожны. Піонэры сачэце за выхадам, каб дастаць гэтыя зборнічкі, якія нам, бязумоўна, патрэбна прачытаць, каб ведаць сваю навейшую літаратуру.




## Жарты, задачы і загадкі.

### На вуліцы.

Па вуліцы йшлі два невялікія хлопчыкі і вялі паміж сабою гутарку. Нарэшце адзін запытаўся ў другога:

— Што-б ты рабіў, калі-б ваша хата загарэлася?

— Я схаваўся-б пад ложак—адказаў другі.

### Задачка слупкоў.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н | І | О | П | Э |
| Ы | Ы | Р | Р | Х |
| Ц | У | Ю | Т | Ь |
| Е | Ь | М | З | Н |
| М | К | А | У | С |
| Л | М | О | А | У |

(П. Герман).

Переставіць дадзеныя слупкі так, каб можна было прачытаць вядомы піонэрскі лёзунг.

(*Пераварачваць слупкі ня трэба*).

### Загадкі.

Якія каменьня бываюць у вадзе?

Што зробіцца з воронаю, калі ёй міне тры гады?

### Задачка.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 7 | | 9 | | |
| | | А | | А | | |
| 1 | А | А | Б | Б | В | 2 |
| | | Е | | Е | | |
| 3 | І | Й | Й | К | К | 4 |
| | | Л | | Л | | |
| 5 | Л | М | Н | Н | Н | 6 |
| | | Р | | С | | |
| | | 8 | | 10 | | |

(Міхалка).

Переставіць літары фігуры так, каб можна было прачытаць: 1—2 правадыр працоўных ўсяго сьвету; 3—4 судно; 5—6 горад БССР; 7—8 птушка; 9—10 ежа.

### Задачка лікаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | | |
| | | | |
| | | | |
| | | | |

(Тодара).

Узяць лікі ад аднаго да 16-цёх і разьмясьціць іх так, каб атрымаць чытаючы зьлева на права, зьверху ўніз і па дыаганалях, адзін і той-ж лік, які павінен раўняцца 34-ом (усіх адказаў павінна быць дзесяць).

Лікі не павінны паўтарацца.

### Подумай,



Як скласьці з гэтых літар пяцёхкутную звязду.

### Задачка лікаў.

(Тодара).



Разьмясьціць лікі ад аднаго да пяці у крыжыку так, каб атрымаць два адказы зьверху ўніз і з права налева.

Атрымаць адказы па 9 (сума лікаў) пры чым, лікі каб ні паўтараліся.

Адказны рэдактар: **Рэдколегія**.

Менск, 1-я Дзяржаўная друкарня зак. № 3174. Галоўлітбел № 9587—4500 экз.

# АНКЕТА*)

(для водгукаў аб часопісі „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“).

1. Ці ўсе нумары чытаў ты „БЕЛАРУСКАГА ПІОНЭРА“?

2. Дзе дастаеш часопісь (выпісваеш сам, ці ў знаёмых бярэш, калі ня выпісваеш — чаму)?

3. Якія яшчэ чытаешь піонэрскія часопісі?

4. Як падабаецца табе „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“ наогул?

5. Якія пытаньні яшчэ не высьвятляе часопісь і што неабходна трэба на твой погляд?

6. Як падабаецца табе літаратурны і інш. матэрыялы ў часопісі, а калі што не падабаецца — чаму?

7. Як даецца табе мова часопісі (цяжкая ці легкая)?

8. Як падабаюцца табе малюнкі ў часопісі, што адмоўнае ты знаходзіш у іх?

9. Ці пішаш ты ў „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“?

10. Што яшчэ ты хочаш сказаць аб часопісі у сэнсе яе недахопаў і добрых бакоў?

---

*) Гэту-ж анкету выразаць з часопісі, напісаць адказы і паслаць па адрасу, які надрукаваны на другім баку. Марку прылажыць трэба ў 2 кап.

# Наша чарговая праца.

(*Працяг*).

## Менш пасяджэньняў і комісій.

Адным з балючых бакоў нашае папярэдняе працы была залішняя нагрузка дзяцей рознымі *пасяджэньнямі* комісій, троек і іншае. Атраду неабходна пераглядзець жыцьцёвасьць усіх яго комісій і працу, якая можа быць выканана адным альбо двома піонэрамі, даручаць не комісіі, а *асобным дзецям*. Гэта павялічыць адпаведнасьць кожнага за сваю працу і разгрузіць дзяцей ад зусім лішніх пасяджэньняў.

Больш адпаведныя заданьні можна даручаць невялікім комісіям, альбо, менш за ўсё, пэўным зьвеньням, якія ўнутры сябе разьмяркоўваюць асобныя часткі гэтага абавязку паміж сваімі піонэрамі.

## Мяняць часьцей абавязкі.

Ненормальным было таксама й тое, што часта дзеці *несьлі адзін і той-жа самы абавязак на працягу доўгага часу*. Зразумела, што „спэцамі“ яны зрабіцца ня могуць, а цікавасьць да працы часта губляецца, бо адна праца надаядае.

Затым, у пачатку кожнага этапу належыць рабіць разьмеркаваньне абавязкаў і перагляды сваіх органаў. Гэтыя органы трэба замяняць новымі сябрамі.

## Організацыя працы.

*Дрэнна організаваная праца—аснова ўсякай перагрузкі дзяцей*. Атраду належыць высьветліць, што ў яго працы зьяўляецца лішнім, што бярэ больш часу, чым гэта можа быць пры іншай організацыі працы, што трэба скараціць, што павялічыць і г. д. Высьветліўшы, зараз-жа прыступіць да выпраўленьня ўсіх недахопаў.

## Скласьці расклад заняткаў.

Перш за ўсё, неабходна ўсю працу атраду разьмеркаваць у пэўным парадку, гэта значыць, скласьці расклад працы атраду на нядзелю. Расклад складаецца так, каб у аднаго піонэра адзін і той-жа дзень ня было двух даручэньняў (школа сюды не ўваходзіць). Будуючы расклад атраднай працы, належыць падлічыць таксама школьныя сходы, працу форпостаў, сходы ячэйкі ЛКСМ і г. д., а таксама прадставіць кожнаму піонэру адзін вольны вечар, калі ён мог-бы папрацаваць у сваім кутку дома, паўтарыць тое што, прашоў у школе, напісаць патрэбны даклад, альбо артыкул у газэту.

Расклад павінен быць вывешан пры ўваходзе ў клюб, і савет атраду павінен добра сачыць за тым, каб ён не парушаўся. Кожны піонэр павінен перавывесіць расклад атраднай працы ў сваю кніжку і вывесіць яго ў сваім піонэр-кутку дома поруч з раскладам заняткаў у школе.

## Дасканальнасьць і акуратнасьць.

Затым, атраду патрэбна прыняцца за ўвядзеньне *дасканальнасьці й акуратнасьці* ў сваёй працы. Усякія заняткі, сходы, рэпэтыцыі, дзяжурствы, пасяджэньні павінны *пачынацца дасканала ў азначаныя гадзіны*, колькі-б дзяцей ня зьбіралася. Кожнае спазьненьне павінна адмячацца, і зьвяну належыць прымаць самыя энэргічныя меры супроць дзяцей, якія прыходзяць ня ў час. Трэба будзе павесьці таксама барацьбу з тым, што шмат дзяцей любяць быць бяз усякае справы ў клюбе, хацечыт. і інш.

Кожнае даручэньне кім-небудзь з піонэраў павінна запісвацца ў дзеньнік з азначэньнем тэрміну выпаўненьня. Пасьля вызначанага тэрміну трэба патрабаваць ад піонэра справаздачы аб праробленай працы.

## Завесьці падлік.

З пачатку веснавога этапу павінны быць заведзены дзеньнікі ўва ўсіх зьвеньнях, дзе запісваць усе моманты сваёй працы. Справаздачы аб працы павінны своечасова падавацца ў акруговае, раённае Бюро і ячэйкі ЛКСМБ.

Для вядзеньня падліку належыць вылучыць спэцыяльных піонэраў.

## Складаць плян.

Напасьледак, *бяз выразнага конкрэтнага пляну ніякая організованая праца ня можа весьціся*. Трэба заўсёды складаць плян працы на пэўны тэрмін часу.

Атраду неабходна пераглядзець старыя пляны працы і ўказаньні ячэйкі і Бюро Ю. П.

Павадыр **Лёўка**.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА

## НА ШТОМЕСЯЧНУЮ „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“ ЧАСОПІСЬ

**Кожны піонэр павінен першым падпісацца на сваю часопісь.**
**Рэдакцыя чакае ад вас падпіскі, матэрыялаў і жывой сувязі з сваёй часопісьсю.**

**ДАРМОВА ЧАСОПІСЬ ДАЛЕЙ РАССЫЛАЦЦА НЯ БУДЗЕ.**

**Школы, вучні, хаты-чытальні, комсамольцы, выхаваўчыя установы і ўсе іншыя зацікаўленыя грамадзянскія організацыі—сьпяшэце з падпіскай.**

**„Беларускі піонэр“**
вучыць, як весьці працу ў атрадзе, як трэба працаваць па Ленінскі.

**„Беларускі піонэр“**
зьмяшчае шэраг літаратурных твораў, на якіх павінны выхоўвацца юныя Ленінцы.

**„Беларускі піонэр“**
зьмяшчае лепшыя творы саміх піонэраў і вучняў.
На старонках часопісі вырастаюць новыя маладыя літаратары—піонэры.

**„Беларускі піонэр“**
дае матэрыялы аб тым, як і што можна зрабіць самому.

**„Беларускі піонэр“**
зьмяшчае матэрыялы для чытаньня піонэрскай зьмене „Чырвоным зоркам“.

**„Беларускі піонэр“**
імкнецца стаць чыста дзіцячай часопісьсю, што залежыць ад саміх піонэраў, іх сувязі з рэдакцыяй.

**„Беларускі піонэр“**
дае цікавы матэрыял для заняткаў у часе адпачынку.

**Піонэры, школьнікі, хаты-чытальні і усе іншыя грамадзянскія установы, зацікаўленыя піонэрскім рухам і выхаваньнем маладога пакаленьня, выпісвайце, чытайце дзіцячую часопісь „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“.**

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| На | 1 мес. | (адзін нумар)— | 20 к. |
| „ | 3 мес. | (тры нумары)— | 60 к. |
| „ | 6 мес. | (шэсьць нум.)— | 1 р. 20 к. |
| „ | 12 мес. | (дван. нум.)— | 2 р. 40 к. |

**Грошы высылайце па адрасу: МЕНСК, САВЕЦКАЯ 63, АДЗЕЛ РАСПАЎСЮДЖВАНЬНЯ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫДАВЕЦТВА.**